Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 4. Вільня, 25 сакавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |



## Ў 9-тыя ўгодкі.

Роўна 9 гадоў назад — 25 сакавіка 1918 году—Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску абвясьціла незалежнасьць Беларусі.

Аб гэтым факце цяпер напэўна больш ці менш вядома шырокім народным масам і ў Заходняй Беларусі. Як-жа коратка выглядае прабег падзеяў да гэтага гістарычнага мамэнту?

Кожны наш вясковы дзядзька памятае, як у царскія часы мала й чуваць было аб Беларусі. Затым вялікая вайна, прывёўшая ў лютым 1917 году да рэвалюцыі ў былўшай Расейскай Імпэрыі. Самаазначэньне народаў пад рэвалюцыйным урадам Керэнскага. Беларускі рух у Петраградзе сярод рабочых і інтэлігэнцыі, асабліва магутны рух беларусаў - ваякаў на ўсіх фронтах, арганізацыя беларусаў па ўсёй былўшай імпэрыі. Рух гэты концэнтруецца ў Менску. Пры захапленьні ўлады ў былўшай Расеі бальшавікамі ў кастрычніку 1917 году, ў Менску істнавала наша нацыянальная арганізацыя Вялікая Беларуская Рада і аўтаномная пры ёй Беларуская Цэнтральная Вайсковая Рада. Бальшавікі зрабілі захапленьне ўлады і ў Менску, залажыўшы там гэтак званы „Совет Народных Комиссаров Западной Области и Фронта". Ня гледзячы на іхнюю работу, Вялікая Бел. Рада рашыла склікаць Усебеларускі Зьезд. Віленшчына і Гарадзеншчына была адрэзана ад Менску нямецкім фронтам і гэтыя абшары на Зьезьдзе прадстаўлялі выбарныя ад бежанскіх арганізацыяў. Зьезд сабраўся ў Менску 4 сьнежня 1917 г., але працы свае да канца давясьці ня мог, бо грубаю сілаю штыхоў быў разагнаны бальшавіцкімі камісарамі „западной области и фронта".

Гэтак распраўляліся бальшавікі з самаазначэньнем Беларускага Народу, адначасна трубячы ў сваёй праграме, што яны стаяць за самаазначэньне кожнага народу царскае Расеі „вплоть до отделения".

Ужо на Усеб. Зьезьдзе насілася думка аб абвешчаньні Беларусі незалежнаю. Разагнаны Зьезд пасьпеў такі пакінуць Раду Зьезду, а яна выдзяліла з сябе Выканаўчы Камітэт. Гэты Камітэт уночы з 19 на 20-е лютага 1918 году стаў фактычнаю ўладаю ў беларускай сталіцы — Менску, паведаміўшы гэтым „народы Беларусі" ў першай устаўной грамаце і стварыўшы 20 лютага першы беларускі ўрад — Народны Сэкрэтарыят, які пяць дзён быў фактычнаю ўладаю, вітаны энтузіястычнымі маніфэстацыямі менскага насяленьня, ўсьцешанага панічным уцяканьнем бальшавікоў на Усход.

Ня гледзячы на окупацыю Беларусі ў той час немцамі, Першы Беларускі Урад істнаваў далей, выклікаўшы да жыцьця магчымы ў тых варунках беларускі нацыянальна-дзяржаўны рух і даўшы справу да магчымага тады прадпарлямэнту—Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая 25

сакавіка 1918 г. сказала сваё ращучае слова аб Беларусі.

Факт гэны, як яркі прамень, асьвяціў маркотны шлях беларускага тагочаснага жыцьця і калі-б тады кола гісторыі затрымалася ў сваім руху, факт гэты быў-бы дасягненьнем найвышэйшых нацыянальных ідэалаў Беларускага Народу.

Аднак жыцьцё ідзе, і няма той сілы, якая магла-б паўстрымаць яго.

Кола гісторыі пакруцілася — і ў руху сваім, пасьля пяцёх дзён, сьцёрла з твару зямлі ўсё, што магло быць фактам гэнае незалежнасьці. Толькі ў душы жменькі людзей, якія тварылі гэную незалежнасьць ня толькі дзеля абароны свае хаты прад развалам, які нясла з сабою з Усходу хваля маскоўска-бальшавіцкага мора, ня толькі дзеля абароны свае маемасьці й жыцьця, альбо дзеля здабыцьця міністэрскіх пасадаў, — але, падаючы свой голас на Ўсебеларускім Конгрэсе за Незалежную Беларусь, бачылі ў гэнай незалежнасьці сынтэзу нацыянальнай думкі беларускага народу, факт гэны загарэўся зоркай яснай, якую ні час, ні колы гісторыі, зьністожыць не патрапяць.

І вось цяперака, калі мы робім рахунак, і задаем пытаньне, чаму сталася так, што гэная незалежнасьць не зрабілася фактам, і што даволі было невялікага нацiску окупантаў, каб увесь на скорую руку створаны дзяржаўны Беларускі Ўрад, яго міністры - сэкрэтары, разьляцеўся ўва ўсе бакі, як пух пад подмухам ветру, то мусім сказаць, што Беларускі Ўрад, ня меў той моцы, якая патрэбна для таго, каб словы «Незалежная Беларусь» не засталіся пустым гукам, а прынялі рэальныя формы.

Мы ня хочам вінаваціць тагочасны Беларускі Ўрад, і казаць, быццам ён не зрабіў ўсяго таго, што мог, для правядзеньня ў жыцьцё наказаў Усебеларускага Конгрэсу; мы толькі хочам сказаць, што Ўрад гэны запраўды ня меў ніякай моцы, бо быў сам адзін, бо калі за ім і была частка грамадзянства, засяляючага абшары Беларусі, то ня меў ён самага найважнейшага: ня меў цьвёрдай апоры для свайго будаўніцтва і бачыў пад сваімі нагамі, замест гранітных фундамэнтаў высокага нацыянальнага пачуцьця шырокіх масаў народу, нейкі хаос і імглу бяз ясна зарысованых формаў. Што гэта так, што нацыянальная няспеласьць Беларускага Народу была галоўнай прычынай слабасьці Першага Беларускага Ўраду і разам з тым прычынай таго, што словы „Незалежная Беларусь“ засталіся толькі лёзунгам і яснай зоркай у душы кожнага, пазнаўшага сваё нацыянальнае „я“, беларуса, сьведчаць факты дзяржаўнага адраджэньня суседніх народаў — Палякоў, Ліцьвіноў, Латышоў, Эстонцаў.

Варункі, ў якіх адбывалася дзяржаўнае адраджэньне Польшчы, Эстоніі і Латвіі, з большага тыя самыя, як і ў Беларусі. Праўда Палякі ня былі тады пад окупацыяй бальшавікоў, але мелі на сваім карку жалезную лапу нямецкага юнкера. Аднак народы гэныя вызваліліся.

І калі паставіць пытаньне, чаму гэта так, чаму амаль у адным і тым самым часе Палякі, Ліцьвіны, Латышы і Эстонцы — здабылі сабе незалеж-

---

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Глядзі № 3 „Б.Д.“*).

II.

Каб дабрацца да Тыфлісу, трэба было праехаць у цягніку каля 3000 вёрст па абшарах Велікаросіі, Украіны, Вобласьці Войска Данскога і Каўказу.

Ня буду апісваць усяе гэнае падарожы, бо, седзячы ў цягніку, іншы раз гэтак набітым народам, як селядцы ў бочцы, я нават праз вокны вагонаў рэдка калі меў магчымасьць бачыць гэныя краіны, праз якія з грукатам, сьвістам і сапеньнем нёс мяне жалезны конь.

Помню толькі, што ў Навачаркаску ў буфэце станцыі зьвярнулі маю ўвагу вялізарныя ракі, якіх я запраўды бачыў першы раз у жыцьці. Рак гэткі разам з клешнямі меў даўжыні запраўды-ж трошкі менш як 3/8 аршына. Зьеўшы аднаго рака—я быў сыты.

Далей кінулася мне ў вочы багацьце і сытасьць Данской Вобласьці. Помню якраз была нядзеля, калі праяжджаў я гэную краіну. На станцыях зьбіралася шмат народу, асабліва жанчын, (мужчыны ўсе амаль былі на вайне). Дародныя прыгожыя бабы і дзяўчаты, вытрашчыўшы вочы, глядзелі на цягнік, міргалі да праяжджаўшых ваякаў, грызьлі семячкі, сплёўваючы іх луску тут-жа на зямлю, дзеля чаго ўсе станцыі выглядалі, як забруджаны мухамі шэры дыван.

Праехаўшы гэную краіну, чугунка пачала павалі ўрэзвацца ў горы Каўказу.

Мушу прызнацца, што горы гэныя, аб якіх так прыгожа апісваюць поэты, не зрабілі адразу на мяне таго ўражаньня, якога я спадзяваўся, тым болей, што шлях чугункі спачатку трымаўся трошкі далей ад іх, і толькі тады, калі праз некалькі часу цягнік уціснуўся ў самае іх сэрца і яны абступілі яго з усіх бакоў, тут толькі я распазнаў усю дзікую іх прыгожасьць. Куды прыгажэйшым мне здалося Касьпійскае

насьць, а Беларусы не *), то будзе адзін толькі адказ: шырокія масы дзяржаўна паўстаўшых народаў мелі ўжо ў гэны гістарычны момэнт гэтулькі моцнае нацыянальнае пачуцьцё, што ня толькі ажыцяўленьне іх нацыянальнае душы ў форме дзяржаўнага арганізму тады ўжо зусім дасьпела, але арганізм гэны яшчэ меў даволі сілы, каб узмацавацца і жыць.

І дрэнна робяць тыя беларускія дзеячы і палітыкі, якія заместа таго, каб кінуць гэную праўду ў вочы беларускаму грамадзянству і будзіць ды гадаваць нацыянальную душу Беларускага Народу, рвуць яе на часьці ў партыйных спрэчках, альбо атручваюць яе брудам зоолёгічнага шовінізму.

Яшчэ больш шкадлівую для нацыянальнай беларускай думкі работу робяць тыя палітыкі, якія і дагэтуль яшчэ, не ўзмацаваныя належна беларускія нацыянальныя сілы, глумяць у палітычных авантурах, альбо, накіроўваючы беларускае грамадзянства ў абняцьці чырвонай Масквы, паскудзяць і труцяць душу нашае моладзі, кідаючы ў яе зерне бязбожжа і моральнага раскладу.

Гэным палітыкам мы кажам: не ў партыйных спрэчках, не ў нацыянальным шовінізьме, ня ў чырвонай Маскве з яе тэрорам, з яе гаспадарскім і моральным развалам, але ў глыбі душы кожнага паасобнага беларуса ляжыць ключ адраджэньня Беларусі. І гэную душу народную, трэба ачысьціць з астаткаў бруду і сьмяцьця, навеяных у яе за часы доўгавечнай няволі і тады толькі, прыгожая і чыстая, як стварыў яе Бог, яна сама знойдзе шлях свайго нацыянальнага вызваленьня.

*) Бо хіба-ж ніхто з беларусаў у гэным фальварку маскоўскіх камуністых, які яны назвалі БССР і якім, як за часы падданства, упраўляюць бізуном і вастрогамі—ня бачыў і ня бачыць ажыцяўленьня нацыянальнай беларускай думкі?

# ДА БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА!

Наша газэта — незалежна-сялянская.

Яна будзе:

баранiць палітычныя правы беларускага селяніна;

баранiць народную беларускую культуру;

баранiць беларускую школу;

памагаць селяніну ў яго працы агранамічнымі, сельска-гаспадарчымі і юрыдычнымі парадамі;

памагаць селяніну ў яго барацьбе за зямельную рэформу;

змагацца з рознымі злачынствамі і гвалтамі над селянінам;

перасьцерагаць сялян перад рознымі палітычнымі спэкулянтамі і ашуканцамі;

высьвятляць усебакова жыцьцё селяніна-Беларуса, як у Польшчы, так сама і ў Раднай Беларусі.

Найлепей мы можам выканаць нашыя задачы толькі тады, калі нашую газэту селянін будзе чытаць і сам пісаць, калі рэдакцыя будзе мець у розных кутках краю сваіх людзей: корэспондэнтаў, падпісчыкаў, сымпатыкаў.

Сяляне! Трымайце сувязь з нашаю газэтаю, выпісвайце яе, пішэце корэспондэнцыі, пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.

---

мора, якое ад станцыі Пятроўск амаль не пакідала нас да самага гор. Баку. Пагода тады была ціхая, спакойная, сонца парка грэла і з вокнаў цягніка нараз можна было бачыць люстраны твар водных абшараў, якія недзе на далёкім кругазоры спатыкаліся з сінім небам і за заслонай з белых туманоў быццам саромліва цалаваліся з ім... Ад Баку шлях чугункі крута зьмяняе свой кірунак і, зьвяртаючы на захад, урэзваецца ў самае сэрца гор, паміж каторымі раскінулася сталіца дзікага і прыгожага Каўказу— Тыфліс.

У дарозе я пазнаёміўся з афіцэрам-грузінам, сталым жыхарам Тыфлісу.

Той параіў мне, ў якой гасьцініцы найлепш затрымацца і—калі я расказаў яму, што некалькі дзён трэба будзе мне пажыць у Тыфлісе і запытаўся ў яго, што ў іх цікаўнага ёсьцека ў Тыфлісе, той адказаў мне, што найцікаўшае ў гэтым горадзе лазьні (сушні) і Грузінскае Грамадзянскае Сабраньне. А асабліва хваліў лазьню.

— Там, ведаеце, ёсьць гэткая гліна, што калі абмазаць ёю цела, дзе растуць валасы, дык праз некалькі мінут валасы адстаюць, як брытвай зголеныя. Бязумоўна ідзеце да лазьні, варта паглядзець,—раіў ён.

Дзеля таго, што ў Тыфліс мы прыехалі а гадзіне неяк 5-ай пасьля паўдня, я, знайшоўшы гасьцініцу і трошкі закусіўшы, пайшоў шукаць гэных лазьняў.

Добра паблутаўшы па горадзе, я нарэшце знайшоў іх.

Нейкі банщчык армянін, узяў мяне ў абароты. Чаго ён толькі не вырабляў са мною: палажыўшы мяне на нейкі столік, то мітусіў мяне, як той хлеб у дзяжы, то намітусіўшы гладзіў рукамі жывот і ногі, то зноў з нейкім гневам навальваўся на мае грудзі і плечы, і калаціў мяне, і пратаў, як той лён добрая гаспадыня ў нашых вёсках. Ажно скончыў нарэшце мучыць мяне і крыкнуўшы: „Гатова, барын!“—хапіў мяне пад пахі і паставіў на ногі.

# Гражданка — наша нацыянальная азбука *).

На высунутае на старонках „Беларускага Дня“ грамадзянінам М. В—ім пытаньне аб нашай транскрыпцыі, ён рашуча выказаўся за лацініку, прадказваючы сьмерць гражданцы, якую заве кірыліцай. Дарэчы будзе спомніць, што кірыліца гэта азбука, якою друкуюцца царкоўныя кнігі — азбука царкоўна-славянская. А літары, якімі друкуецца й наша часопісь — гэта кірыліца зрэфармованая або гэт. зван. г р а ж д а н к а.

Аргумэнтацыя грам. М. В., нібыто беларусы, якія орыентуюцца на Ўсход, стаяць за кірыліцу (гражданку), а тыя, што орыентуюцца на Захад — за лацініку, — цьвярджэньне досіць сьмелае, бо трудна паверыць, каб на Захад кіраваўся расейскі прафэсар Расторгуев, які на Менскай Акадэміччай Конфэрэнцыі выказваўся за лацініку? А якраз вядомыя беларускія культурнікі, прыхільнікі заходняга эўропэізму, падавалі галасы за гражданку, як нашыя нацыянальныя літары, стараючыся напіраць толькі на пэўнае яе зрэформаваньне.

Той факт, што лацініка заваёўвае месца ў азіятаў, расходзіцца па ўсім сьвеце, яшчэ мала чаго нам кажа. Няўжо мы павінны цягнуцца сьледам за туркамі, японцамі і гэтак далей?

Чаму „Наша Доля“ і „Наша Ніва“ дый іншыя часам газэты выходзілі і гражданкай і лацінікай, для кожнага павінна быць зразумелым. Тут рашалі мотывы чыста практычныя. Беларусы, на сваю бяду, былі, і ў пэўнай меры цяпер застаюцца, пад уплывам расейскай і польскай культуры. Пэўныя, даволі дужыя, мамэнты гэтых культураў праводзіліся ў беларускія народныя масы з аднаго боку праз праваслаўе, з другога — праз каталіцызм.

І як гэта ні парадоксальна, як ні сумна, а і дасюль яшчэ часамі цёмны беларускі селянін азначае сваю нацыянальнасьць, рахуючыся з рэлігіяй: к а т а л і к — значыць п а л я к, п р а в а с л а ў н ы — р у с к і. А, зьбіты зусім з панталыку, селянін такі проста кажа, што ён — т у т э й ш ы.

Вось-жа дзеля таго, каб роднае друкованае слова даходзіла, як да каталікоў, падлягаўшых польскім нацыянальным уплывам, так і да праваслаўных, цярпеўшых дэспотычна-прымусовую маскалізацыю, беларускія часопісі часамі друкаваліся дубальтова — і лацінікай і гражданкаю.

Бязумоўна барацьба (і нават вельмі выразная) абодвых вышэйназваных уплываў — аднаго з Захаду, другога з Усходу — адбіваецца на нас і дасюль. Але шырачэнныя беларускія масы нацыянальна будзяцца, цёмная сялянская душа беларуса ясьнее, праціраючы вочы і шукаючы свайго нацыянальнага шляху да сонца свабоды.

Ў гэтым магутным масавым руху беларускім, справа гражданкі ці лацінікі часта робіцца справаю асабістае сымпатыі.

Ужываньне тае ці іншае транскрыпцыі ў нашым друку малады беларускі рух м у с і ц ь датарноўваць да практычных мамэнтаў.

Аднак-жа гістарычна сьцьверджана, што кірыліца раней была нашаю, чымся запанавала яна ў Маскоўшчыне, а затым у „сабранай“ ёю бышай Расеі. У літоўска-рускі пэрыяд нашае гісторыі дзяржаўнаю транскрыпцыяй была гражданка, якая і ў актах пасьля вуніі Літвы з Польшчаю завецца „рускімі літэры“.

Значыцца, за гражданку голасна сьведчыць наша гісторыя, гражданка мае за сабою глыбачэзную традыцыю. Есьць, праўда, традыцыі благія, але ёсьць

*) Друкуецца для дыскусіі.

---

— „Т э п э р е с ь л ы х о ч э ш, б а р ы н, г л ы н о м б у д э м м а з а т, б а с э й н к у п а т“.

Але, пакуль я здолеў што-нібудзь адказаць яму, ужо мой мучыцель цягнуў мяне, як нявінную ахвяру на ўбой і, прыцягнуўшы ў суседні пакоік, пачаў мазаць усё маё цела нейкай сьмярдзючай, зеленавата-шэрай гразьзю.

— Г а л а в а м а з а т б у д э м? — пытаўся банщчык, вымазаўшы мяне гэным паскудзтвам ад пятаў да самае шыі. І пакуль я здолеў адказаць, гляджу ажно, зьмясіўшы цэлы ком гразі, ён замахнуўся ўжо рукою, каб кінуць яго на маю галаву. Тутакі, сабраўшы астаткі свае энэргіі, я сярдзіта крыкнуў на яго:

— Ня сьмей кідаць гэнае паскудзтва на галаву! — і хапіў яго за руку.

— Н э н а д а к р ы ч а т, б а р ы н, н э х о ч э ш — н э н а д а, — адказаў спакойна баншчык. Ён завёў мяне зноў у трэці пакоік, паставіў пад пырсьніцу і пачаў змываць гразь.

Зыйшла яна лёгка і дзіва—разам з ёю ўсе валасы.

— В о т т ы т э п э р, к а к м л а д э н э ц — і д ы б а с э й н к у п а ц ц а — п л а в а т.

Я пайшоў за ім ужо да чацьвёртага пакою, ў якім быў басэйн.

Але, глянуўшы на гэную брудную жыжу, заместа вады, ў якой капашылася і плюхалася некалькі хлопцаў, — я адмовіўся ад гэнае прыемнасьці і пайшоў адзявацца.

Выйшаўшы з гэнай лазьні, я пачуў, як змучыла мяне падарожа, і цяперака мне хацелася аднаго — спаць, што я і зрабіў, прышоўшы да свайго пакою.

(*Працяг будзе*)

**Дзядзька Пранук.**

і гэткія, міма якіх народ прайсьці ніколі ня можа. Напрыклад, забабонная вера нашых вясковых дзядзькоў і цётак у розныя чары, чартоўскія штучкі, у сілу лякарскае веды знахароў, а ня сучасных вучоных мэдыкаў — факт прыкры, як абапёрты на цемнаце народнай, але і ў звычаёвых традыцыйных мамэнтах нашага народу ёсьць сьветлыя бакі, дзе наўрад ці варта што зьмяняць або ламаць. Напр., нам мілей чуць, як беларус старэйшых векам за сябе, бацькоў сваіх, ці роўных сабе людзей малазнаёмых, ветліва называе на „вы“, замест маскоўска-татарскага, або каўкаскага — „ты“. І гэта ў нашым народзе ідзе па традыцыі, русіфікацыя тут у нашым сялянскім быце нічога не патрапіла зьмяніць.

Пазволю сабе сказаць, што малады наш рух, даўшы колёсальны палітычны скок угару, ў сэнсе культурным паўзе дэсіць марудна і нам як быццам і часу няма заглянуць у нашу далёкую мінуўшчыну, калі прашчуры нашыя былі эўропэйскім народам, умелі дастойна пераджываць крытычныя мамэнты Оршы, Койданава і Грюнвальда, мелі сваё кніжнае слова.

І транскрыпцыяю іх была кірыліца, цяпер гражданка.

Бяда невялікая, што яна патрабуе зрэфармаваньня.

Чаму-ж яна мае памёрці?

**Краўцоў Макар.**

---

## ВЯСНА.

Ізноў вясна — вадзіца льлецца,
Шчабечуць птушкі, лес сьмяецца,
Сьмяецца ціхім ясным сьмехам;
Канец зіме, яе пацехам;
Канец бядзе,
Вясна ідзе!

Вясна, з красой бяроз сукрыстых,
З пуком вяночкаў тых квяцістых,
Прышла прыгожая багіня,
Што ў душу кожнаму закіне
Прамень сьвятла —
Вясна прышла!

Цябе я ждаў; о, ты сьвятая!
Дзіця... бязьвінна маладая!
Што ты нясеш з сваім прыходам?
Ці раз мінаў так год за годам?
Ў душы-ж маей
Штораз цямней...

Нічога мне ня трэ', нічога!
Адно каб шчасьця сьвет людзкога
Прышоў з табой, вясна, да нас.
Вясна, вясна! хоць гэты раз
Пацеш мяне:
Хай крыж міне...

Цяжкі наш крыж, цяжкі праз меру.
Хоць ты вясна, сьвятую веру
Ў той лепшы час сабой навей,
Ўзмацуй надзеяй, ды мацней
Закуй—скрапі..
Душа цярпі!

Вясна прышла.. Праз шум вясьняны,
Ў зялёнай вопратцы паляны,
Цьвітуць, прыгожа так цьвітуць.
Вада бурліць, бары гудуць.
Наўкола цуд —
На сэрцы смут.

Міхась Васілёк.

---

# Перад будучынай

*(думкі аб незалежнасьці).*

У адной з кніжак, не памятаю ў якой, нам давялося чытаць апісаньне таго гістарычнага паседжаньня, на якім Рада Рэспублікі абвясьціла незалежнасьць Беларусі.

І адразу кінуліся ў вочы словы Варонкі, які зачыняў гэтае паседжаньне а шостай гадзіне раніцы і прывітаў прамень сонца, якое глянула ў вокны Рады Рэспублікі, так:

— Гэта — Сонца Беларусі!

Сымболічныя, трагічныя і прарочыя словы.

Сягоньня ня сьвеціць нам гэтае сонца. Яно схавалася за хмарамі гісторыі. Часамі, ў мінуты ўпадку духу, здаецца, што сонца наша пагасла і зноў наступаець ноч няволі...

Але ня толькі ў смутку і задуменьні стаімо мы сягоньня перад будучынай нашай. Прамень надзеі, той прамень, які калісьці дзевяць гадоў таму назад, асьвяціў наш край, — жывець глыбока ў душы і сэрцы народным. І гэты прамень надзеі перайдзе ад нас да новых пакаленьняў Беларусі.

Няхай мы сягоньня разьбіты, няхай ня ўдасца нам пабачыць „зямлю абяцаную“ — няхай загінем мы пад новымі і новымі ўдарамі пражорлівасьці і барбарства, — сьлед ёсьць і гэтым сьледам народ наш разам з іншымі народамі пойдзець у будучыну, да новага сьвітаньня...

* * *

Калі мы гаворым сягоньня аб незалежнасьці, калі з глыбіняў сваее душы выносім ізноў на сьвет ідэю адраджэньня роўнасьці і братэрства, дык памятайма, каб ня падаць духам, што ня толькі нашаму народу гісторыя стала мачахай. Шмат ёсьць такіх народаў і на Ўсходзе Эўропы і на Захадзе, як і ў Азіі, і ўсюды, якія таксама ня маюць сваее незалежнасьці

# Літэратурныя нататкі.

Роўна дзесяць гадоў прайшло ад пачатку Расейскае рэвалюцыі. І калі падвясьці літэратурны баланс гэтых дзесяцёх гадоў — то трэба прызнаць, што расейская рэвалюцыя і бальшавізм адбіліся на лёсах беларускай літэратуры фатальна. А ніводнага больш-менш значнага новага літэратурнага імя не далі нам гэтыя дзесяць гадоў. Часам прыходзіцца чуць, што там, на тым баку граніцы, ідзе нейкае адраджэньне беларускае культуры. Калі-б гэта было так, то гэтае адраджэньне знайшло-б свой адбітак і ў літэратуры, дало-б нам новыя таленты і поэтаў, новыя творы, якія Беларусь сьпявала-б і вучыла, аб якіх гаварылі-б суседзі...

Але прайшло дзесяць гадоў — і мы новага нічога ня бачым.

Янка Купала і Я. Колас, як былі, так і засталіся, і зьмяніць іх ніхто не зьмяніў. Не знайшлося з новых, паваенных і парэвалюцыйных, поэтаў а ніводнага імя, якое-б магло хоць прэтэнсіі мець на гэтую зьмену. Так ёсьць і гэтага факту ня выкрэсьлім нічым. Відаць, што ёсьць нейкія паважныя прычыны, якія затрымліваюць творчую энэргію народу, не даюць ёй размаху. І ня толькі так дрэнна стаіць справа з беларускаю літэратураю. Расейская літэратура таксама нічога ня мае. Там таксама пуста, калі ня лічыць Есеніна, які нядаўна павесіўся і адразу асіраціў расейскі Олімп. З украінскаю літэратураю ня лепей. Мікола Хвылёвы, адзін з лепшых маладых украінскіх пісьменьнікаў, шырока задумаўся над прычынамі гэтага агульнага літэратурнага заняпаду і прыйшоў да перакананьня, што вінавата ўва ўсім Масква, яе рэжым, вінавата дыктатура, ад якое украінскія пісьменьнікі мусяць „як мага швыдчэй уцякаці", калі хочуць захаваць свае сілы і сваю літэратуру. Ці так гэта? Ці праўда, што на дарозе літэратурнага адраджэньня народаў стаіць ізноў, як у старыя гады, Масква?..

Каб адказаць на гэтае параўнаньне, ня будзем глыбока залазіць у расейшчыну, альбо украінскія літэратурныя справы — гэта не ўваходзіць нават і ў нашу задачу. Пабачым, што робіцца на беларускім Олімпе, і спачатку будзем гаварыць аб Менску, пра адраджэньне якога сярод некаторае часьці беларускага грамадзянства творацца легенды, як калісьці тварылі легенду аб горадзе Кітэжы, які фактычна нават і не існаваў. Дык вось, каго-ж мы там бачым на беларускім Олімпе? Жывець там Я. Купала, Я. Колас. Ці пішуць яны хоць што-небудзь, адпавядаючае іх таленту і сіле? Мы праглядалі часопісь „Полымя", дзе друкуюцца ўсе найлепшыя беларускія пісьменьнікі Ўсходу. Апрача гумарыстычных рэчаў — як напр. „Тутэйшыя" — камэдыя Я. Купалы, альбо маленькія апавяданьні Я. Коласа — нічога не знайшлі. Ці значыць, што нічога ня пішуць? Не, ня значыць. Значыць толькі, што ня могуць а ніяк прыспасобіцца да пісаньня ў новых умовах. У мінулым годзе было выдана некалькі томаў Я. Купалы і Я. Коласа, — але гэта ўсё перадрукі старых твораў, а з новых, апрача дробных вершаў, — нічога няма. „Новая Зямля" — поэма ў вершах Я. Коласа, якая выйшла ў 1924 г., была пачата яшчэ да вайны і фактычна не зьяўляецца новым творам Я. Коласа, а старым, задуманым задоўга да рэвалюцыі. Адным словам, старыя стаўпы беларускае літэратуры маўчаць. Ды і як яны могуць гаварыць і сьпяваць, калі кругом сябе бачаць грамаду шпікоў? За Я. Купалаю ўвесь час сочаць агенты з Г. П. У., за Я. Коласам таксама. У апошняга яшчэ нядаўна была рэвізія. Можа што і пішуць, але друкаваць ня могуць, бо і палажэньне якіх таксама-ж цяжкае, як і палажэньне Беларусі.

Вазьмем, напрыклад, Грузінаў. Гэты гераічны народ сотні гадоў ужо змагаецца з маскоўскім дэспотызмам за сваю волю і злажыў на аўтар барацьбы шмат ахвяраў. У 1918 годзе, нарэшце, Грузіны абвясьцілі свой край незалежным. Ім таксама ўзышло сонца. Але ненадоўга. Пражорлівы маскоўскі дэспотызм, на гэты раз ужо бальшавіцкі, задушыў вольны народ. Увосень 1923 году Грузіны яшчэ раз паўсталі і ізноў былі пабіты. Але вера ў незалежнасьць Грузіі жыве і не памірае. І Грузія будзе незалежнай!

* * *

Альбо вазьмем Украіну. Разважаючы аб прычынах нашых цяжкіх няўдачаў у барацьбе за незалежнасьць, мы павінны ўвесь час пільна сачыць за украінскім рухам, які і мацнейшы і старэйшы за рух беларускі. Нацыянальная сьвядомасьць украінцаў ніколі не памірала. Як іскра яна то тлела ў душы народнай, то зноў гарэла пажарам нацыянальнае барацьбы за волю і незалежнасьць. Украінцы маюць свайго ўладара думаў—геніяльнага Шаўчэнку, якога любяць так, як палякі Міцкевіча. Украінцы яшчэ да рэвалюцыі мелі свае моцныя нацыянальныя арганізацыі, як напрыклад „Просвіта".

І што-ж мы бачым? Гераічныя спробы украінцаў абараніць сваю незалежнасьць падчас расейскае рэвалюцыі — ні да чаго не прывялі і Украіна падзяліла лёс Беларусі. Не памагла ні украінская армія, акая была арганізована, не памаглі і фінансы, якія меў украінскі ўрад. Як відаць прычыны украінскіх няўдачаў ляжалі глыбей і гэтыя прычыны мы павінны зразумець, бо яны аднолькавыя і для Беларусі і для іншых народаў.

* * *

Але каб зразумець гэтыя глыбокія агульныя прычыны, — зьвернемся да жыцьця тых народаў, якія ўжо маюць сваю незалежнасьць. Найкрасамоўнейшы

цэнзура не прапусьціць, як было калісьці (у 1922 годзе) з адным моцным вершам Я. Купалы „Перад будучынаю“, — за які цэлы журнал „Адраджэньне“ быў сканфіскованы. Як-бы там ні гаварылі аб адраджэньні беларускае літэратуры на Ўсходзе — факт застаецца фактам. Найлепшыя, геніяльныя поэты Беларусі — маўчаць, як зачарованыя.

А што далі нам маладыя? За апошнія часы (два - тры гады) іх зьявілася там шмат. Есьць нават цэлая партыя пісьменьнікаў і поэтаў „Маладняк“, якая налічвае некалькі сот сяброў. На чале гэтага аб‘яднаньня ў свой час, гадоў тры таму назад, стаў малады, досыць здольны поэт Чарот, які абяцаў вельмі шмат і пісаў добрыя вершы, пакуль не заснаваў сваё партыі. Прайшло 3 гады жыцьця гэтака „Маладняку“ і што-ж мае беларуская літэратура? Мае шмат сапсованай паперы, макулятурныя казённыя творы — вось і ўсё. Сам Чарот перажывае нейкі крызыс, шмат п‘ець і прапівае ўсё да ніткі, як калісьці Есенін, а чым скончыць — невядома. Аб іншых маладнякоўцах і гаварыць няварта. Крызыс „маладнякоўскае“ поэзіі на Усходзе на наш пагляд тлумачыцца тымі-ж самымі прычынамі, якімі тлумачыцца і агульны заняпад літэратуры. Залішняя апека цэнзараў, адсутнасьць вольнасьці друку, рамкі, за якія ня можа выйсьці поэт, калі хоча друкавацца; казёншчына, казёншчына і яшчэ раз казёншчына, якая забівае кожнае сьмелае, жывое слова.

Найбольш здольныя „маладнякоўцы“, якім ходзіць не аб гонорары, зразумелі прычыны няплоднасьці „Маладняку“ і з паўгода таму назад самавольна выступілі з гэтае казённае арганізацыі пісьменьнікаў і залажылі новую арганізацыю, якая завецца „Узвышша“. Да „Узвышша“ далучыліся і некаторыя старыя пісьменьнікі, напрыклад Зьмітрок Бядуля. Нядаўна вышаў з друку першы спыток іх твораў, у якім прынялі удзел, апроч Зьмітрака Бядулі, — К. Чорны, Ул. Дубоўка, М. Лужанін, Глебка, С. Дарожны, Я. Пушча, Крапіва і іншыя. „Узвышша“ ня хоча быць казённым журналам, шукае новых шляхоў поэтыцкае і літэратурнае творчасьці. Але здаецца нам, што знайсьці гэтых шляхоў ня ўдасца і „Узвышшу“ занадта душнае паветра на Ўсходзе і вырвацца на прасторы творчасьці там проста немагчыма. Што будзе далей, трудна варажыць. Пакуль што, апрача казёншчыны, макулятуры, сьпісанай і напсованай паперы, нічога няма. Дай Божа, каб што-небудзь было, але гэта можа наступіць толькі тады, калі беларускі народ вырвецца на шлях адраджэньня і зьвяжа свой лёс з эўропэйскаю культураю, ад якое ён, дзякуючы цяжкім палітычным умовам, сягоньня ізоляваны.

Застой і заняпад беларускае літэратурнае творчасьці адчуваецца і ў Польшчы. Прычыны гэтага заняпаду тут іншыя, але аб гэтым пагаворым калі-небудзь другім разам.

*М.*

# АД РЭДАКЦЫІ.

Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“ мае ць арганізаваць

## СЕТКУ СВАІХ КОРЭСПОНДЭНТАЎ НА ПРОВІНЦЫІ.

Дзеля гэтага зьвяртаемся да ўсіх, хто можа пісаць, каб прысылалі свой адрэс, імя, прозьвішча (да ведама Рэдакцыі) і варункі, на якіх згодны супрацоўнічаць у газэце. Пажадана пробная корэспондэнцыя.

прыклад — Літва. Так. Там ёсьць Літоўскі ўрад, але ці моцна ідэя незалежнасьці Літвы, ці ня хістаецца яна ад кожнага ветру ці то ўсходняга, ці то заходняга, ад кожнага капрызу „вялікіх“ нацыяў. Перавароты і пераварОцікі, якія так характарны для апошняга году жыцьця Літвы, сьведчаць, што незалежнасьць Літвы пад пагрозаю і што ў тэй, альбо іншай форме яна можа падзяліць лёс наш, лёс Грузіі, лёс Украіны...

Латвія, Эстонія. Ці глыбока ўрасла ідэя незалежнасьці ў душу гэтых народаў і ці пэўны яны за сваю будучыну? Бачым і там хістаньне, бачым і там крызыс ідэі незалежнасьці, бачым тую адзіноту, якая аслабляе кожны народ і зьяўляецца асабліва небясьпечнаю для тых народаў, якія былі ў няволі.

* * *

Дык вось гэтая адзінота, ізаляванасьць народу, па нашай думцы, і была галоўнаю, рашучаю прычынаю няўдачаў, як нашых, так украінскіх і грузінскіх.

Дзялі і пануй! Вось была палітыка окупантаў, векавая палітыка ворагаў.

І да таго часу не замацуецца ідэя адраджэньня і незалежнасьці, пакуль усе нязгоды, бышыя ў няволі, не перамогуць тае галоўнае перашкоды, якая і сягоньня яшчэ, як мара, як здань, як самая страшэнная хвароба, точыць народы.

Ідэя незалежнасьці не дзяліць нас павінна, а злучаць.

І да таго часу, пакуль палякі, беларусы, украінцы, грузіны, латышы, эстонцы, ліцьвіны, — і наогул усе народы — ня стануць на шлях згоды і актыўнага супрацоўніцтва—ідэі незалежнасьці ўсіх гэтых народаў ня можна лічыць забясьпечанаю для будучыны.

*Не-палітык.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як трэба загаспадарыць калёніі (парцэлі).

Як найлепей і найкарысьней загаспадарыць на сваім новым надзеле — калёніі, ўсё роўна ці атдрыманай з комасацыі вёскі, ці набытай з парцэляцыі двара? Вось пытаньне, якое само насоўваецца ўласьніку новае калёніі, тым болей таму гаспадару, які, дзякуючы комасацыі вёскі і сцаленьню свае зямлі ў адзін самастойны надзел, зрабіўся нарэшце панам свайго палажэньня, свае ініцыятывы, пазбавіўся нарэшце гаспадарчага прымусу ўсяе вёскі, дзе ён няраз бясплодна і высьмейваны суседзямі прабаваў вырвацца з застарэлае формы палявой гаспадаркі-трохпалёўкі, якая была ўжо перажыткам і прычынай гаспадаровай галіты. Яно-ж трудна і немагчыма было паадзінчым асобам—гаспадаром паразумецца і пераканаць цёмную вёску, каб яна кінула трохпалёўку і чорны ўгор, каб перайшла, на ўзор уласьніка двара або калёніі, на інакшы пладазьмен з сяўбою кармавых траваў (канюшыны, люцэрны, сарадэлі, вікі), скасавала ўгоры, якія займаюць $^1/_3$ часьць усяго абшару, служачы толькі, як малакарысная паша.

Нават кабі-б і ўдалося пераканаць вёску — грамаду,—дык на перашкодзе стаяла-б страшэнная церасполосіцца земляў вёскі, дзе няраз паасобныя гаспадары маюць свае палеткі ў некалькіх дзесяткох асобных кавалкаў, пры вялікай розьніцы таго абшару, які маюць, — напр.: адзін на цэлым „вучастку“ — 20 гэктараў, другі на $^1/_{10}$ часьці вучастку 2 гэктары і г.д.

Толькі праведзеная комасацыя вёскі дае гаспадару магчымасьць вызваліцца з залежнасьці ад волі ўсяе грамады вёскі, дзе адзін зьяўляецца як-бы нявольнікам іншых гаспадароў.

Толькі ўласьнік самастойнае калёніі мае шырокае поле для выяўленьня свае ініцыятывы, свае працавітасьці, свае земляробскае веды і г. д.

Толькі тут робяцца відочнымі індывідуальныя розьніцы паасобных гаспадароў самастойных надзелаў, што адаб'ецца на стане загаспадараваньня калёніяў і на зьвязанай з гэтым заможнасьці ўласьнікаў гэтых надзелаў.

Каб памагчы і заахвоціць тых, хто не дае сабе рады і не патрапіў адказаць на пытаньне „якім чынам найлепей, найкарысьней загаспадарыцца на сваім надзеле?“—пералічу і па магчымасьці высьню гэтую справу, робячы параўнаньне дзьвёх сыстэмаў гаспадараньня: старое—3-х палёвае і новае—9-ць палёвага пладазьмену з гэткай вось пераменнасьцю, датарнованай да грунтаў тугіх, глiністых, пясчана-глiністых, ці добрых беліцаватых, на мала прапушчальным падгрунтьце, якімі багаты нашыя ўсходня-паўночныя паветы ў Віленшчыне, на якіх сеюць лён, ячмень, а канюшына расьце добра:

1) палетак (угор) зялёны: віка, лубіны, сарадэля.
2) палетак: жыта, пшаніца—азімыя (з падсевам на вясну канюшыны).
3) палетак: канюшына (на сена).
4) палетак: канюшына (на сена).
5) палетак: канюшына (паша).
6) палетак: жыта, пшаніца (зімовыя).
7) палетак: бульба і акопныя (з гноем).
8) палетак: лён.
9) палетак: авёс, ячмень.

Пры сярэдніх мінімальных ураджаях, як у першым, так і ў другім выпадку, розьніца раўняецца: 450 пудоў сена канюшынаў і павялічаныя ўраджаі акопных.

(Канец будзе).

## Адстаўляньне і жарабеньне кабылы.

У цяперашні час у нас звычайна пачынаецца пэрыяд жарабеньня кабылаў, а затым ужо і чароднага адстаўляньня.

Помнячы яшчэ ваенныя часы, ў якія лік коняў нязьмерна зьменшыўся, сёньняшні земляроб па інэрцыі гадуе, што толькі можа: ледзь ня кожная кабыла зьяўляецца жаробнаю ад першага-лепшага вогера, а ў рэзультаце ўсюды сягоньня відаць на пасьбішчах стады лядашчых, калекіх, блізка што нічога нявартых жарабят. І што-ж нарэшце маем? Лік коняў у нас перавысіў даваенную норму, а якасьць іх—ня дай Ты, Божа! Цана на коні змалела да нябывала нізкіх межаў па прычыне празьмернага посулу. Аб тым, каб гадоўля коняў аплачвалася, няма й гутаркі. Спрадукованая намі дрэнь ніколі не аплаціць кошту гадаваньня. А з другога боку — добрых коняў, напр., рэмантовых вельмі прыкры недахоп, ня гледзячы на высокія цэны, якія цяпер плаціць войска.

З таго, што вышэй сказана, выплывае ясная рэч, — сыстэма нашае гадоўлі коняў павінна быць грунтоўна зравідована. На гадоўлю павінны ўжывацца толькі кабылы, якія прыдаюцца на тое, каб быць мацёрамі, а таксама й бязумоўна добрыя вогеры, якія даюць гарантыю нармальнага прыбытку.

Пераходзячы да самога адстаўляньня кабылы, трэба зазначыць, што часта, дзякуючы неразуменьню, паступаем тут нерацыянальна. Адстаўляць кабылу трэба якраз толькі тады, калі яна выказвае патрэбу! невычаканьне гэтага мамэнту і прымушаньне кабылы вядзе да ніякага рэзультату. На вясну трэба толькі добра глядзець, а кожная кабыла выкажа палавую патрэбу.

Жарабеньне кабылы, якое звычайна прыходзіцца таксама пад канец зімы, павінна быць акружана адпаведнаю апекаю земляроба. Аж пакуль кабыла не ажарэбіцца, яе трэба ўжываць да лёгкае работы, а тады, як жарэбіцца, даць падмогу, калі гэта ака-

жацца патрэбным. Пры гэтым трэба глядзець, каб жарабяці не сьвяціць у вочы, бо гэта вельмі шкадліва ўплывае на конскія вочы.

Звычайна на 9 дзень пасьля таго, як кабыла ажарэбіцца, дапушчаем кабылу да вогера. Пільнавацца гэтага тэрміну не заўсёды добра. Ня ўсе кабылы ўжо на 9-ты дзень выказваюць патрэбу, і толькі кабыла, якая патрабуе, затаўсьцее, а ў іншым выпадку адстаўляньне ня мае сэнсу.

## Гаспадарчыя парады.

### Тутун — атрута.

Хочаш быць здаровым — кідай курыць.

Лісты расьлін з так званай пароды „вашывай псінкі", калі адбудуць процэс бушаваньня, утрымліваюць у сабе ад 1 да 3 працантаў нікотыну. Дым з тутуну дае шкодныя для арганізму чалавека атруты: нікотын, окісь вугляцу, аміяк, сінільны квас, серавадарод і інш. 14 тысячных грама нікотыну, прынятыя з вадой чалавекам, ужо вызываюць азнаку атручэньня нікотынам.

У 20 папіросах — 8 сотых грама нікотыну, а гэты лік атруты, калі будзе прыняты чалавекам, можа яго адразу забіць.

Нікотын — моцная атрута для сэрца і нэрваў. Пачатак курэньня шкодзіць атрутай на сымпатычную нэрвовую сыстэму, г. зн. на такія нэрвы, ад якіх залежыць правільнае жыцьцё і праца сэрца, нутра, крывяходаў.

У працягу свайго жыцьця ў сярэднім чалавек выкурвае 10 пуд. тутуну. У прывычных курыльшчыкаў разьвіваецца перараджэньне крывяходаў, іх склероз, а ад яго можа адтрымацца разрыў крывяходаў з паралюшам рук, ног і г. д. Звычайныя зьявішчы ў заўзятых курцоў: катар дыхацельнага шляху, нутра, кружэньне галавы, паносы, агульная млявасьць, біцьцё сэрца, задышка, кашаль і г. д.

Асабліва ў старых і дзяцей пачынаецца малакроўнасьць, адсутнічае апэтыт, прытупляецца памяць, заўсёды шуміць у вушах. Усё гэта час-ад-часу пагаршае і скарачае жыцьцё.

### Што рабіць на гаспадарцы ў красавіку.

*Земляробства.* Баранаваць зімовае збожжа і канюшыну. Раскідаць і заворваць вызезены зімою гной. Высяваць канюшыну і іншыя кармовыя травы па зімовым збожжы. Падрыхтаваць поле пад яравыя засевы. Узьняць папар. Пачынаць працу на полі: высяваць авёс, яравое жыта, ячмень, гарох і яравую пшаніцу. У канцы месяца высяваць лён, проса. Калі вясна раньняя, пачынаюць садзіць бульбу. Угнойваць сенажаці попелам, жыжкай гною, чалавечым калам, мінэральнымі ўгнаеньнямі.

*Жывёлагадоўля.* Працягваць злучку кабыл. Стрыгчы авечкі. Лягчаць вепрукоў, жарэбчыкаў, бычкоў, баранчыкаў. Першы раз выгнаць скаціну на пашу, ня больш як на 2-3 гадзіны. Трэба спачатку прывучыць скаціну да пашы, бо калі адразу выгнаць на цэлы дзень, то яе можа праняць мытам. Добра карміць рабочую скаціну. Пачынаюць акочвацца авечкі. Прышчапляць скаціне супроць сыбіркі. Увесну асьцерагацца ўздуцьця чэрава ў скаціны: загадзя наўчыцца ў фэльчара, як ратаваць скаціну ад уздуцьця. Ня пасьвіць скаціну па кустох, бо ад гэтага яна можа захварэць на крываўку.

*Садоўніцтва.* Перад тым, як пачнуць разьвівацца пучкі, апырскаць дрэвы бардоскаю жыжкай. Перасаджаць і садзіць старыя дрэвы і кусты. Паабрэзваць у сьлі і вішань дубчыкі, якія растуць ад кораня. Абкапаць дрэвы і кусты. Як толькі дрэвы пачнуць расьці — угнаіць іх.

### Барануйце поле ў пару.

Сьпярша аруць і барануюць зямлю, каб яна абветрывалася, лепш перагнівалі і распускаліся розныя часьці, каб імі лёгка маглі харчавацца расьліны.

Для росту расьліны, апрача вялікай меры вады, трэба і паветра, бо толькі пры гэтых добрых варунках можа гной і розныя цьвёрдыя часткі зямлі раскладацца і вырабляць сокі, каторымі жыве расьліна.

Вясной баранаваць ня трэба, калі яшчэ зямля мокрая, бо поле заплыве і зробіцца крэпкая скарынка, ад каторай зямля памалу будзе сохнуць, і ня будуць працаваць маленечкія нявідзімыя жывучкі (бактэры), каторых праца ўсё роўна, як дрожджы для хлеба. Зноў-жа шкадліва і надта позьняе баранаваньне, калі зімняя пахата ўжо зацьвярдзее і ўсохнецца. Злавіць момант баранаваньня — гэта надта важная рэч, ад гэтага залежыць, можна сказаць, ураджай, а ў нас барануюць, калі ёсьць час.

Трэба ўсё кідаць, а ісьці баранаваць, бо баранаваньне ў пару захоўвае зімовую вільгаць, патрэбную для росту яравога.

### Як сеяць лён.

У нас на Беларусі ўсё спрыяе засевам лёну, каб ад яго мець добры прыбытак.

Лён добра расьце на нізіне (ня вельмі сырой), на лёгкім суглінку і нават супескавым полі. Поле з блізкаю грунтоваю вадою, або цяжкая суглінкавае, вельмі пагнойны чарназём ці балотная глеба ня спрыяюць росту лёну. Ня любіць лён і вельмі лёгкага пескавога поля.

### Дзе сеяць лён.

Найлепшым месцам у севазвароце пад лён будзе поле пасьля ўгноенага жыта ці бульбы. Лён добра расьце на канюшынішчы, а таксама і на дзірванох. Добрым севазваротам для лёну будзе травяное і кораньплоднае шматпольле. Можна адтрымоўваць добрыя ўраджаі лёну і пры трохпалёўцы, але пры ўмовах рань-

няга выпрацаваньня папару і пры асеньнім гараньні поля на поўную глыбіню.

Калі гаспадар выбраў добрае месца ў севазвароце для засеву лёну, а поле добра ўгноена і сваячасна выраблена, але ня зьвернута належная ўвага на насеньне, то добрага ўраджаю ня будзе. Уся патрачаная праца і сродкі не будуць аплачавы. Насеньне павінна быць добрага гатунку (лёну-даўгунцу), сьвежае, поўнай вагі, бліскучае і бяз гнілога паху, а галоўнае, без насеньня шкодных траваў. Перад засевам семя трэба ачысьціць. Страты на ачыстку і сартаваньне заўсёды зьвернуцца.

### Як захоўваць малако.

Сьвежае выдаенае малако зараз-жа трэба працадзіць цераз мэталічнае сіта, каб ачысьціць ад гною, сьмецьця, гразі, якая пападае ў дайніцу ў час даеньня, праветрыць малако пераліваньнем яго з аднэй пасуды ў другую, каб ачысьціць ад хляўнога паху. Паранае малако зараз-жа ахаладзіць, няпаранае трымаць у зачыненым выглядзе і ў халодным месцы. Паранае ў халодным месцы трымаць няможна, бо яно хутка сапсуецца. Сапсуецца малако і тады, калі цёплае зьмяшаць з халодным; загэтым зьмешваць ранешні і вячэрні ўдой трэба пры аднолькавай цяплыні таго й другога.

Малако, прызначанае для продажу, а таксама для дастаўкі ў арцель, павінна захоўвацца ў халодных паграбох і яшчэ лепш — у лядоўні (летам), або апускаць пасуду з малаком у калодзеж, дзе летам заўсёды вада халодная.

### Воспа.

Воспа вельмі цяжкая і заразьлівая хвароба. Зараза знаходзіцца ў крыві, носавай сьлізі і сьліне хворых, а таксама ў воспавых балячках. Хвароба можа перадавацца праз паветра (пры гутарцы, кашлі і дотыку да рэчаў) і яшчэ праз укусы вошай і блох. Хвароба выяўляецца гарачкай, больлю ў паясьніцы, агульным зьнемажэньнем. Праз 3 — 4 дні гарачка крыху зьмяншаецца, і адначасна з гэтым на целе зьяўляюцца мядзяна-чырвоныя пупішкі, высыпка. Далей пупішкі паявлічваюцца ды наліваюцца празрыстаю, а пасьля густою гнаёваю жыжкаю. Гнаёвыя пупішкі з часам засыхаюць. Часта хвароба пагоршваецца і канчаецца сьмерцю. Калі чалавек і выздаравее, то на скуры застаюцца рабінкі. Шмат людзей ад воспы сьлепне. Воспа — небясьпечная і цяжкая хвароба, і таму хворага зараз-жа трэба адвозіць у больніцу.

Найлепшы спосаб зьберагчы сябе ад воспы — гэта рабіць прышчэпку воспы.

### Як гадаваць сьвіньні.

З усіх нашых дамовых жывёл сьвіньня амаль што больш дае даходу гаспадару, чым другая скаціна.

Каб сьвінаводзтва сапраўды ішло добра і прыносіла карысьць, трэба спаўняць правілы.

Трэба дзяржаць і гадаваць у большасьці толькі пародзістыя сьвіньні. Найбольш падходзячыя для нашых умоваў лічацца сьвіньні дзьвюх парод: белай (іокшырскай) і чорнай (бэркшырскай); убойная вага белых сьвіней да году дасягае 10 — 12 пудоў, а да 2—3 гадоў даходзіць да 25 пуд.

Чорныя па вазе і па росту трохі менш як белыя. Нашы сьвіньні ў параўнаньні з гэтымі пародамі, разумеецца, нічога ня варты.

Помесь нашых сьвіней з ангельскімі таксама добра.

Сьвіньні, асабліва малыя, патрэбна карміць добра. Да 6 тыдняў парасятам трэба даваць у волю малака, а пасьля 6 тыдняў даюць зьнятае малако, прыбаўляючы да яго жытняй мукі, печанага хлеба ці бульбы. Летам трэба пускаць парасят на траву ці ў поле.

На племя трэба пакідаць з свае гаспадаркі самыя лепшыя парасяты.

Паросная сьвіньня ходзіць 3 месяцы, 3 тыдні і некалькі дзён. За месяц да апарасеньня яе трэба добра карміць, падбаўляць да варанай бульбы фунтаў 3—4 мукі кожны дзень. У гэты час ёй няможна даваць кармоў замарожаных ці загніўшых, таму што можа быць выкідыш.

Народжаных парасят трэба трымаць у цяпле, бо холаду яны ня любяць і могуць памерці.

### Цэны сельска-гаспадарчых прадуктаў у Вільні

*на 22-га Сакавіка.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта | 42.50—44 зл. | за 100 | кілёгр. |
| Авёс | 39.00—42.00 | „ | „ |
| Ячмень бравaровы | 39.00—42.00 | „ | „ |
| Ячмень на муку | 36.00—40.00 | „ | „ |
| Жытнія атрубы | 31.00—32.50 | „ | „ |
| Бульба | 8.50—10.00 | „ | „ |
| Сарадэля | 35.00—37.00 | „ | „ |
| Лубін | 30.00—34.00 | „ | „ |
| Канюшына белая | 3.60— 4.00 | „ | „ |
| Авёс на насеньне | 44.00—48.00 | „ | „ |
| Мука пшанічная 50% | 90— 1.00 | 1 | кілёгр. |
| Мука жытняя 50% | 60— 65 | „ | „ |
| Мука непрасеяная | 40— 45 | „ | „ |
| Мука бульбяная | 80— 90 | „ | „ |
| Мука грачаная | 60— 70 | „ | „ |
| Мука ячменная | 55— 60 | „ | „ |
| Пансак | 50— 60 | „ | „ |
| Крупы ячменныя | 70— 80 | „ | „ |
| Мяса валовае | 2.10— 2.30 | „ | „ |
| Цяляціна | 1.10— 1.60 | „ | „ |
| Бараніна | 2.20— 2.50 | „ | „ |
| Сьвініна | 2.50— 2.70 | „ | „ |
| Сланіна I гат. | 4.00— 4.20 | „ | „ |
| Сланіна II гат. | 3.50— 3 80 | „ | „ |
| Сала | 3.80— 4.00 | „ | „ |
| Малако | 30— 35 | 1 | літр. |
| Сьмятана | 2.20— 2.30 | „ | „ |
| Тварог | 1.00— 1.30 | „ | „ |
| Сыр тварожны | 1.80— 2.00 | „ | „ |
| Масла несалёнае | 7.00— 7.70 | „ | „ |
| Масла салёнае | 5.50— 6.00 | „ | „ |
| Яйкі | 1.40— 1.60 | 10 | штук. |
| Куры | 3.00— 6.00 | „ | „ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Качкі жывыя . . . | 4.00— 8.00 „ | „ | „ |
| Качкі бітыя . . . | 4.00— 6.00 „ | „ | „ |
| Гусі жывыя . . . | 12.00—15.00 „ | „ | „ |
| Гусі бітыя . . . | 8 00—12.00 „ | „ | „ |
| Скуры на падноскі . | 10.00—14.00 „ | 1 | кілёгр. |
| Сасновыя дровы . . | 10.00—14.00 „ | „ | воз |
| Бярозавыя дровы . . | 11.00—14 00 „ | „ | „ |

**Віленская біржа 23 сакавіка.**

| | | |
|---|---|---|
| Даляр . . . | 8 зл. 92½ гр., | — 8 зл. 91¾ гр. |
| Залаты рубель . . | 4 зл. 73½ гр., | — 4 зл. 72½ гр. |
| Закладныя лісты Віл. Зям. Банку за 100 зл. | 47 зл. 50 гр., | — 47 зл. 20 гр. |

---

# ЮРЫДЫЧНЫ АДДЗЕЛ.

## Выкуп зямлі дробнымі арэндатарамі.

Рэч вядомая, што ў нашым краі ледзь не ўва ўсіх вялікіх дварох ёсьць маса фальваркаў і засьценкаў, якія з вельмі даўных часоў абрабляюцца арэндатарамі. У большасьці выпадкаў арэндатары ня маюць ніякіх кантрактаў, асабліва ад часу вайны, і сядзяць на зямлі з году на год, няпэўныя за свой лёс. Зямельная рэформа, якая мае на мэце даць зямлю тым, хто на ёй працуе, прадбачыць таксама і забясьпечаньне арэндатараў уласнаю зямлёю. Выданая для гэтай мэты 20 чэрвеня 1924 г. „Ustawa uwłaszczeniowa“ рэгулюе гэтую справу і дзеля гэтага трэба, каб шмат якія арэндатары ведалі, якія ім служаць правы і якім чынам яны павінны бараніць свае інтарэсы.

Дык перш за ўсё трэба зазначыць, што права на выкуп зямлі маюць толькі дробныя арэндатары або такія, якія арэндуюць ня больш як 40 дзесяцін. Затым трэба, каб арэндатар быў шматгадовы, гэта значыць, каб сядзеў на арэндзе прынамсі ад пачатку 1895 году. Гэткі шматгадовы арэндатар павінен мець арэндную умову на 12 гадоў, а калі яе тэрмін карацейшы, дык павінна быць агаворана права аднаўленьня кантракту на далейшы час на тых самых варунках.

Арэндатары, якія асяліліся на землях пасьля 1895 году, але да 1-га жніўня 1914 г., маюць права выкупу толькі тады, калі паставілі ўласныя будынкі. Для прызнаньня права выкупу, апрача пералічаных варункаў, закон вымагае, каб арэндатар меў пасьведчаньне аб грамадзянстве (obywatelstwo), каб у арэндаваньні зямлі ня было перарыву больш як на 1 год, каб ня было залегласьці ў аплаце арэнды па віне арэндатара, каб карыстаньне зямлёю ня было заплатаю за работу.

Калі арэндатар адказвае прыведзеным варункам, дык ён павінен зьвяртацца з прашэньнем да „Komisji Uwłaszczeniowej“ пры Павятовым Зямельным Урадзе. Цану выкупу устанаўляе Камісія ў разьмеры 8-разовае арэнднае платы за 1913 г., а дзеля гэтага вельмі важна для справы, каб можна было устанавіць разьмер арэнднай аплаты за 1913 г., прыкладаючы расьпіску. Калі доказаў разьмеру арэндных аплатаў няма, дык яна будзе устаноўлена паводле сярэдніх арэндных аплатаў у данай мясцовасьці.

Устаноўленая цана выкупу можа быць Камісіяй разложана на раты на час да 12-ёх гадоў, калі арэндатар даставіць доказы, што ён ня можа заплаціць цаны выкупу адразу.

Закон гэты (Ustawa uwłaszczeniowa) выданы на 4 гады, або да ліпня 1928 году, гэта значыць: калі хто-нібудзь з арэндатараў не падасьць прашэньня да гэтага тэрміну, дык згубіць усякае права, якое вынікае з Закону, і лёс яго цалкам будзе залежаць ад добрае волі ўласьніка двара.

Як відаць з таго, што мы сказалі, Ustawa Uwłaszczeniowa можа мець датарнаваньне толькі да некаторых арэндатараў, таму што большасьць з іх ня мае ані 12-гадовых кантрактаў, ані умоваў з правам прадаўжаньня іх, а будынкі арэндатараў звычайна пастаўлены з дворнага дзерава. Дзеля гэтага Міністэрства Зямельных Рэформаў апрацавала цяпер варункі выкупу, якія маюць быць абвешчаны, як дапаўненьне Закону. Калі спраектованы новы закон будзе зацьверджаны, дык права выкупу будзе прызнана за ўсімі арэндатарамі, якія сядзяць на зямлі перад 1895 г., а тыя, што маюць арэнду ад 1892 году і даўней, будуць магчы выкупіць зямлю паводле 8-разовай арэнднай цаны за 1903 г.

Хаця новы закон яшчэ й не абвешчаны, аднак можна спадзявацца, што ён будзе зацьверджаны, а значыцца тым болей ня трэба марудзіць з прашэньнямі да „Komisji Uwłaszczęniowej“, каб ня ўпусьціць тэрміну.

(„Kultura“). *Вітольд Абрамовіч.*

# Палітычныя навіны.

*(За тыдзень).*

## Перад выбарамі ў Сойм.

„Robotnik“ падае вестку, што ў Сойме пачалася падрыхтоўка да будучых выбараў. Першыя крокі зрабілі ў гэтым кірунку прадстаўнікі нац. меншасьцяў, якія хочуць стварыць ізноў, як ў 1922 годзе, блёк нацыянальных меншасьцяў. Ініцыятыву трымаюць у сваіх руках жыдоўскія сіоністыя і нямецкія нацыяналістыя. Залежыць шмат ад становішча, якое займе ў гэтай справе найвялікшая украінская арганізацыя „Ундо“. На перашкодзе стаіць справа забойства Пэтлюры, дзеля таго, што ў гэтай справе ідзе яшчэ да гэтага часу паход проціў украінцаў жыдоўскае прэсы. Іншая камбінацыя ёсьць стварыць, апроч таго, блёк социялістычных, соцыялізуючых і дэмакратычных групаў меншасьцяў, як нямецкая партыя працы, бунд, украінская арганізацыя пасла Васынчука і Беларускі Сялянскі Саюз.

## Справа кс. Шутовіча.

Цэнтральны камітэт Беларускай Хрысьц. Дэмакраты выслаў на рукі прадстаўніка Папы ў Варшаве просьбу аб звароце кс. Шутовіча да парафіі ў Барадзенічах.

## Ліквідацыя Урадам Бел. С.-Р. Грамады і Незалежнае Муж. Партыі.

Віленскі ваявода выпусьціў да насяленьня адозву, якой падае да агульнага ведама, што Міністар Унутраны

Справаў, прызнаў Беларускую Сял.-Работніцкую Грамаду і Незалежную Мужыцкую Партыю нелегальнымі партыямі, належвасьць да якіх уперадзе будзе карацца судом. Адначасна заклікае ўсіх быўшых сяброў гэтых арганізацыяў складаць у паліцыю партыйныя білеты, пячаткі, друкі цы інш.

### Выдаленьне з украінскае грамады пасла Васынчука.

Украінскі Сялянска-Работніцкі Саюз выключыў з свайго складу вядомага украінскага дзеяча і пасла Сойму Паўла Васынчука за тое, што ён ня гэтак радыкальны, як рэшта сяброў саюзу.

### Дамаганьне арыштованых беларускіх паслоў.

Як паведамляе газэта „Европа", Цэнтральны Міжпартыйны Сэкрэтарыят Барацьбы за Амністыю выдаў камунікат, у якім між іншым гаворыцца, што беларускія паслы Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і Мятла, якія сядзяць у вастрозе ў Вронках, каля Пазнані, ізаляваны ад рэшты арыштантаў і дамагаюцца злучэньня з апошнімі.

### Заняцьце Шанхаю.

21 гэтага сакавіка кантонскае нацыянальнае войска заняло Шанхай.

Яшчэ перад заняцьцем Шанхаю кітайскія работнікі пачалі там забастоўку. Агулам бастуе ў Шанхаі 150.000 работнікаў, якія разам з жаўнерамі кантонскае арміі паляць места і разьбіваюць крамы. Чужаземнае войска, якое складаецца з прадстаўнікоў амаль ня ўсіх эўропэйскіх нацыяў, бароніць ангельскія і францускія канцэсіі, дзе схаваўся, між іншым, і штаб кітайскае арміі, якая бараніла Шанхай ад кантонцаў.

Гэтакім чынам кантонская армія ў першы раз увайшла ў стычнасьць з чужаземнымі войскамі, якія бароняць абшары ангельскіх і францускіх канцэсіяў. На абшарах гэтых абвешчаны выняткові стан.

Заняцьце Шанхаю кантонскай арміяй мае вялізарнае значэньне. Апрача таго, што Шанхай зьяўляўся важным стратэгічным пунктам, у ім быў сканцэнтрованы бадай увесь гандаль і прамысловасьць, якая знаходзілася ў руках ангельцаў і французаў. Хатняя вайна ў Кітаі, якая пачалася ў імя вызваленьня Кітаю з-пад уплыву Англіі і чужаземцаў, з заняцьцем Шанхаю, пераходзіць у новую фазу — фазу замацаваньня незалежнасьці кітайскага народу.

### Ліквідацыя забастоўкі ў Лодзі.

22 сакавіка забастоўка ў Лодзі спынілася. Не працуюць толькі пякарні. Справа заработнай платы вырашана будзе ў Варшаве, дзе ідуць нарады паміж саюзам мэталёвых работнікаў і прамысловцамі.

## Аб усім патроху.

### Пачатак Беларускага друку.

(6 жніўня 1517 году).

Беларускае пісьменства пачалося яшчэ з 12-га веку, але доўгі час ня было ў нас друкованых кніжак, а былі толькі пісаныя ад рукі. Дзеля таго, што пісьменных людзей тады было зусім мала, а ручны спосаб пісаньня кніжак вымагаў шмат часу і добрага накладу, рукапісныя кнігі каштавалі вельмі дорага і былі бадай у адных князёў ды багатыроў.

Такі парадак цягнуўся аж да 6-га жніўня 1517 г., калі беларускі пісьменьнік і дзеяч тых старадаўніх часоў, доктар Францішак Скарына-Полацкі пусьціў на сьвет першую друкованую беларускую кніжку.

Гэты дзень і лічыцца пачаткам нашага друку.

Доктар Скарына радзіўся каля 1490 году ў Полацку. Бацька яго быў купец Францішак навучыўся грамаце ў Полацку, а потым нейкім способам папаў у Вільню, калі меў гадоў 13—14. Хлопец ён быў добры і старанны, і з Вільні здолеў папасьці ў Кракаўскі унівэрсытэт. Прайшоў там вышэйшыя навукі і дастаў доктарскі дыплём. Адтуль ён перабраўся ў Прагу, у Чэхію, дзе за 1517, 1518 і 1519 гады перакладаў на беларускую мову і выдрукаваў ажно 22 кніжкі. Пасьля чаго ён пераехаў у беларускі горад Вільню.

У Вільні ён заснаваў друкарню і ў 1525 годзе выдрукаваў першую кніжку ў роднай зямлі на роднай беларускай мове. „Апостал"

### Якая пагода будзе вясной і летам 1927 г.

Адзін з італьянскіх вучоных абяцае цёплую вясну і гарачае лета.

Нямецкія мэтэоролёгі кажуць, што лета будзе ня надта гарачае, а вясна прыйдзе ня хутка, гэтак—на Вялікдзень выпадзе сьнег.

### Рэзультаты апошняе катастрофы ў Японіі.

Японскі міністар унутраных справаў падае весткі аб страшэнных выніках апошняга трасеньня зямлі ў Японіі.

17% насяленьня на абшары, ў якім была катастрофа, страціла жыцьцё, 83% хатаў зьнішчана і матар'яльныя страты ацэнены ў 50 мільёнаў даляраў.

### Першая археолёгічная знаходка ляднікавага пэрыяду.

Мінулым летам археолёгам К. М. Палікарповічам у даліне Сожу, у ваколіцы мястэчка Чачэрску, Гомельскае акругі былі знойдзены косьці выкапняў жывёлін і крамень, бясспрэчна, апрацованыя рукою чалавека. Умовы заляганьня гэтых рэштак штурхнулі археолёга П. на думку, што тут ёсьць сапраўды помнік палеолітычнай культуры (ляднікавага пэрыяду).

Знаходка помніка таго часу на абшарах Беларусі зьяўляецца вельмі каштоўнай у археолёгічных адносінах. Да сучаснага моманту стаянак палеолітычнай эпохі на тэрыторыі Беларусі ня было выяўлена.

Па думцы вучоных гэтая знаходка можа выясьніць сувязь між палеолітам усходняй эўропэйскай раўніны і Заходняй Эўропы.

### Аплата за выпіскі з мэтрычных кнігаў.

Выпісь з мэтрычных кнігаў (мэтрыка нарадзінаў, шлюбная і г. д.), якая выдаецца духоўнымі асобамі каталіцкае веры, будзе каштаваць 1 злоты.

### Безрабоцьце ў Віленшчыне.

Агульны лік безработных на абшары Віленскага ваяводзтва ў часе ад 14—19 сакавіка быў 5590 асобаў. Дзяржаўная установа пасрэдніцтва працы ў Вільні маецца скіраваць на працу: 1000 дзяўчат і хлапцоў на выезд у Пазнаншчыну для пасадкі лесу, 50 работнікаў пры дарожных работах у Гарадзеншчыне і 200 работнікаў пры рубцы лесу ў Пазнаншчыне.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.